# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА-ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 37 (65) 1—7 снежня 1993 г. Кошт 15 руб.


**СЁННЯ:**



## Пачатак новае традыцыі?





Ля помніка (справа) выступае С. Дашкевіч. Фатаграфіі А. Лакоткі.

У Віцебску ў цiхім куточку Старога горада з'явіўся помнік нашаму земляку, пісьменніку У. Караткевічу. І хоць афіцыйна ён яшчэ не адкрыты, 26 лістапада да яго прыйшлі аматары творчасці знакамітага аршанца. Пра духоўную спадчыну Караткевіча гаварылі, чыталі ягоныя вершы кіраўнік гарадскога аддзела культуры В. Кібісаў, літаратары А. Салтук, У. Папковіч, загадчык інфармацыйнае часткі драмтэатра С. Дашкевіч, артыст-коласавец А. Лабанок.

Лёсу трэба было так распарадзіцца, каб на старажытнай віцебскай зямлі, дзе вякамі жылі беларусы, габрэі, рускія, у нашым горадзе, месце трыадзінства культур падняліся помнікі-сімвалы сыноў трох народаў,— сказаў ініцыятар правядзення свята, паэт Д. Сімановіч.

І жыве памяць пра Караткевіча, Шагала, Пушкіна.

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**

## Свет вакол нас

● Эканамічнае ажыўленне, звязанае з арганізацыяй Алімпійскіх гульняў у Сіднеі ў 2000 г. павінна прынесці Аўстраліі каля 7,3 млрд. долараў, дадатковых бюджэтных папаўненняў.

● Тры гады таму назад 77% немцаў з усходніх земляў падтрымлівалі рынкавую эканоміку. Зараз яна знаходзіць падтрымку ў сарака працэнтаў анкетаваных. На працягу трохгоддзя на развіццё ўсходняй часткі ФРГ выдаткавана 180 мільярдаў марак.

● У Польшчы агульны ўзровень цэнаў падняўся ў 1989 годзе на 250%, у 1990-м— на 585%, пазалетась—на 70, у мінулым годзе на 40 працэнтаў.

**М. МАРУДАЎ.**

## Паведамленне пра лістападаўскі Сойм БНФ «Адраджэньне»

13 лістапада адбылося чарговае паседжанне Сойму БНФ. Са спавешчаннем пра становішча ў Вярхоўным Савеце і перспектывах 13-й сесіі выступіў старшыня БНФ Зянон Пазьняк. Апазіцыя патрабуе адстаўкі ўраду Кебіча, нельга выключаць варыянт, калі ў адстаўку будуць адпраўлены адначасова і Кебіч, і Шушкевіч,—паведаміў З. Пазьняк. Апазіцыя лічыць, што ў кожным разе галоўнае—дамагчыся зменаў у структуры ўрада. Самае горшае, што можа адбыцца ў выніку дыскусій у Вярхоўным Савеце—усё застанецца, як і было.

Сябра Сойму, народны дэпутат Лявон Баршчэўскі прааналізаваў сітуацыю ў Расеі ў сувязі з будучымі выбарамі і адзначыў, што якая б плынь у цяперашнім расейскім урадзе ні ўзяла верх,—арыентаваная на ВПК, якую ўзначальвае Чарнамырдзін, ці ліберальная на чале з Гайдарам—для Беларусі гэта неістотна, бо сітуацыю зараз вызначаюць зімовыя халады, а ўрад не здолее змяніць становішча з энерганосьбітамі. У Расеі недзяржаўны сектар эканомікі расце. Чарнамырдзін не зможа, а Гайдар не захоча даць Беларусі танную нафту. На думку Л. Баршчэўскага, дэмакратычныя сілы ў Вярхоўным Савеце не здолеюць адправіць урад Кебіча ў адстаўку, ён можа быць адсунуты толькі пад уціскам вонкавых чыннікаў.

Намеснік старшыні Сойму Юры Хадыка выказаў думку: якія б ні былі вынікі снежаньскіх выбараў у Расеі, пры ўладзе застануцца «дзяржаўнікі», якія добра разумеюць геапалітычную каштоўнасць Беларусі. Пазбягаючы прамых палітычных крокаў, яны проста купяць Беларусь у Кебіча ў абмен на недатыкальнасць ягонага ўрада. Расея, каб за капейкі атрымаць нашую ўласнасць, пагодзіцца мець дачыненне з Кебічам, падтрымліваць яго невялікімі падачкамі, а той прадасць усё, каб пратрымацца пры ўладзе яшчэ год-паўтара. На БНФ кладзецца адказнасць за тое, каб адправіць у адстаўку гэты крымінальны ўрад.

Па разгледжаных пытаннях адбылася дыскусія.

Сойм заслухаў справаздачу прадстаўнікоў Гародзенскай, Слонімскай, Лідскай Радаў сп. сп. Алега Васькевіча, Мікалая Ракевіча, Уладзіміра Круцікава аб арганізацыйнай працы, звязанай з падрыхтоўкаю да выбараў. Сакратар Управы Сойму Віктар Івашкевіч паведаміў пра аналагічную працу раённых Радаў сталіцы.

Сакратар Управы Сойму Вінцук Вячорка зрабіў паведамленне пра апошнія акцыі БНФ, адзначыўшы пры гэтым, што зараз Фронт мусіць звярнуцца перад усім да арганізацыйнай ды інтэлектуальнай працы, а масавыя акцыі павінны мець нацыянальна-культурны характар.

Ю. Хадыка праінфармаваў Сойм пра візіт кіраўніцтва інтэрнацыяналу Хрысціянскай Дэмакратыі і пра сумесную канферэнцыю БНФ-ІХД па эканамічных і палітычных праблемах Беларусі.

**Падрыхтавала Вера ЧУЙКО.**

*У мясцовых філіях*

## Курс той жа

14 лістапада ў Віцебску прайшла справаздачна-выбарная канферэнцыя абласной арганізацыі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі. У ёй удзельнічалі прадстаўнікі суполак АДПБ з Віцебска, Наваполацка, Новалукомля.

Была выбрана новая 5-ці асабовая Каардынацыйная Рада, якую ўзначаліў навапалачанін Пётр Галыня. У працы канферэнцыі прынялі ўдзел старшыня выканкама АДПБ Валеры Карбалевіч ды сустаршыня Віцебскага гарадскога клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» Юры Хлопкаў.

У гэты ж дзень адбыўся справаздачна-выбарны сход Віцебскай гарадской арганізацыі аб'яднаных дэмакратаў. На ім падчас выбараў кіраўніка філіі сутыкнуліся два палярныя пункты гледжання на тактыку дзейнасці тутэйшых лібералаў.

Выбраўшы старшынёй гарадское Рады Валерыя Журакоўскага, мясцовая арганізацыя Аб'яднанай дэмакратычнай партыі шчэ раз пацвердзіла свой курс на ўзважаную прагматычную палітыку з акцэнтам на прапаганду ліберальных ідэяў і абарону правоў ды інтарэсаў простых грамадзян.

**Прэс-служба Віцебскай абласной і гарадской арганізацый АДПБ.**

## Прыгавор суда

У Оршы завяршыўся судовы працэс над забойцамі студэнта Віцебскага медыцынскага інстытута Аляксандра Баранава. Трое былых міліцыянтаў прыгавораны да розных тэрмінаў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму. **А. Б.**

## ВЫЗВАЛІЦЬ ОРГАНЫ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ З-ПАД УРАДАВАЙ ЦЭНЗУРЫ

### *ЗАЯВА Выканаўчага Камітэта Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады*

Беларускае грамадства з'яўляецца сведкам таго, як урад абмяжоўвае свабоду слова і друку ў нашай краіне.

Дзеля абмежавання аднаго з фундаментальных правоў выкарыстоўваюцца два інструменты.

У сувязі з цяжкім матэрыяльным становішчам газет і часопісаў урад стаў сузаснавальнікам шмат якіх выданняў. Ён непасрэдна фінансуе іх і кантралюе. Прэм'ер-міністр адкрыта заявіў, што ён будзе падтрымліваць толькі тыя выданні, якія не крытыкуюць Савет Міністраў. Цяпер робяцца спробы закрыць трыбуну для прадстаўнікоў розных палітычных плыняў, якою была і ёсць самая папулярная і незалежная ад ураду «Народная газета». Паколькі гэтае выданне з'яўляецца органам Вярхоўнага Савета, урад пры дапамозе пракамуністычнай плыні ў парламенце імкнецца памяняць галоўнага рэдактара «Народнай газеты».

Непасрэдны кантроль за дзейнасцю органаў масавай інфармацыі ажыццяўляе аддзел друку, радыё і тэлебачання Савета Міністраў. Гэтая ўрадавая структура, не прадугледжаная ніводным рашэннем Вярхоўнага Савета, пастаўлена вышэй за міністэрствы. Гэты аддзел прадпісвае рэдакцыям, якую інфармацыю і ў якой дозе даводзіць да ведама грамадзян краіны, накладае абмежаванні на выступленні ў падкантрольных газетах, на дзяржаўным радыё і тэлебачанні дзеячаў апазіцыйных партый.

Па ініцыятыве аддзела друку, радыё і тэлебачання быў закрыты незалежны, самафінансуемы 8-мы канал на тэлебачанні. Палітычная падаснова гэтага рашэння з усёй відавочнасцю пацвердзілася ў канцы верасня 1993 г. Даючы дазвол на аднаўленне дзейнасці незалежных тэлекампаній, урадавыя структуры прадпісалі ім «воздерживаться» ад «организации политических программ и предоставления эфира политическим партиям, движениям и парламентским фракциям». Забароненыя таксама каментарыі «к официальным действиям государственных и властных структур». Чыноўнікі з аддзела друку, радыё і тэлебачання забаранілі самафінансуемым кампаніям даваць эфірны час у арэнду. Значыць, апазіцыя не зможа нават купіць права на выкладанне сваіх поглядаў народу.

Беларускія сацыял-дэмакраты выказваюць пратэст у сувязі з наступленнем рэакцыйных сіл на свабоду слова і друку. БСДГ будзе інфармаваць сацыял-дэмакратычныя партыі іншых краін, еўрапейскую грамадскасць аб стане правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь.

БСДГ выказвае салідарнасць з журналістамі «Народнай газеты»—апошняга афіцыйнага штодзённага органа друку, які не знаходзіцца пад кантролем урада.

Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ выказваецца за скасаванне не прадугледжанага законам аддзела друку, радыё і тэлебачання Савета Міністраў. Выканкам рэкамендуе народным дэпутатам—сябрам Грамады—пры абмеркаванні праекта закона аб друку настойваць на тым, каб фінансаванне органаў масавай інфармацыі праводзілася не Саветам Міністраў, а праз дзяржаўны бюджэт, як гэта прынята ў дэмакратычных краінах.




# НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

## Выступ лідэра парламенцкай апазіцыі Зянона Пазьняка

Спадары дэпутаты! Вельмі правільныя думкі, на мой погляд, выказаў дэпутат Новік аб тых эканамічна-палітычных працэсах, якія адбываюцца і якія прывялі да пастаноўкі пытання аб аб'яднанні грашовых сістэм.

Я хацеў бы таксама засяродзіць на гэтым вашую ўвагу. Сапраўды, ідэя СНД ўзнікла тады, калі ва ўрад Расіі прыйшлі эканамісты чыкагскай школы, якія цудоўна разумелі, што палітычнымі метадамі ўтрымаць гэтую бочку—Савецкі Саюз—ужо немагчыма. Яна ўзарвецца. І ўзарвалася б вельмі крывава. І таму быў прапанаваны другі метад. Метад СНД. Тут было заўважана, што як толькі былі ратыфікаваныя віскулёўскія пагадненні па СНД, адразу ж праз месяц пачалася лібералізацыя цэн. Я прашу вас заўважыць, як дзейнічаў наш Урад і як фактычна пад яго дыктоўку вымушана была дзейнічаць большасць Вярхоўнага Савета. Фактычна, калі зрабіць аналіз, зрэз гэтых гадоў, то атрымліваецца, што палітыка большасці нашага Вярхоўнага Савета і ўрада ішла сінхронна з палітыкай адпаведных колаў Расеі.

Вазьміце падатковую сістэму, пра якую ішла гаворка. Катэгарычна былі не ўспрыняты тыя прапановы, якія выказваліся апазіцыяй і іншымі дэпутатамі. Аб узроўні нашых падаткаў, напрыклад, якія большыя, чым у суседзяў. Ясна, куды пайшоў капітал. Ен пайшоў у тыя краіны рублёвай зоны, дзе падаткі меншыя. У асноўным у Расею.

Што датычыць лібералізацыі цэнаў у 1992 годзе. Катэгарычна не ўспрымаліся тут ніякія думкі аб уводзе ўласнай валюты, а менавіта ў 1992 годзе, тады, калі ў нас яшчэ былі добрыя стартавыя магчымасці, гэта трэба было зрабіць. Тады, вы помніце, выступала і газета «Коммерсант», і эканамісты Расеі, якія рабілі аналіз і паказвалі, што ў найбольш выгадных умовах па ўвядзенні нацыянальнай валюты знаходзіцца якраз Беларусь. Калі б тады мы прыступілі да ўвядзення сваёй уласнай валюты, як у той час пачала рыхтавацца Эстонія, мы б не мелі тых праблем, якія маем зараз.

Цяпер паглядзіце, што адбывалася. Расея валодае стратэгічнымі запасамі нафты, энергарэсурсамі, значыць, яна можа дыктаваць цэны. Гэта зразумела, таму што мы залежныя ад яе рэсурсаў. Яна ўводзіць на сваю нафту адну цану, унутраную, і другую цану, знешнюю. І вось на гэтых, як кажуць, вагах энергарэсурсаў і розных цэнах была пастаўлена на калені Украіна. Украіна была выдаена да крыві.

Узяліся за Беларусь. Паглядзіце, як паслядоўна. Наш урад увесь час гаварыў, што Беларусь залежыць толькі ад энергарэсурсаў Расеі. Яны не хацелі ісці ні на якія пагадненні з іншымі краінамі аб энергарэсурсах. Тое, што прапаноўвала Літва нядаўна, я маю на ўвазе прапановы па тэрміналу ў Клайпедзе, той жа самы балтыйска-чарнаморскі калектар, прапановы па тэрміналу ў Вентспілсе.

Злучаныя Штаты Амерыкі маюць 28 пастаўшчыкоў нафты. Прытым пастаўляюць нафту адтуль, дзе нявыгадна, таму што ў законе сказана, што нельга, каб адзін пастаўшчык даваў нафты больш 30 працэнтаў. Гэта зразумела чаму. У нас жа ўрад намёртва прывязваецца да расейскіх пастаўшчыкоў, да расейскай нафты. Адсюль вынікае, што Расея можа дыктаваць свае цэны, сваю палітыку.

Потым глядзіце, як развіваюцца падзеі далей. Узнікае прапанова пра «калектыўную бяспеку», ставіцца пытанне пра эканамічны саюз, і, нарэшце, пытанне аб аб'яднанні грашовых сістэм. Гэтым фактычна знойдзена форма ліквідацыі незалежнасці Беларусі.

Давайце паглядзім, што ж за сілы кіруюць у Расеі. Ну, распаўсюджаная думка—дэмакраты і камуністы. Але давайце глянем на гэту сітуацыю глыбей. Калі справа ідзе пра Эстонію, Латвію ці іншыя балтыйскія краіны—так. Сапраўды, туды прыйшлі ва ўрад новыя людзі, не наменклатура. З другога боку, засталіся старыя людзі, старыя структуры, якія былі адхілены ад улады. Што ж адбылося ў Расеі? Адбыўся падзел па прынцыпу не дачыненняў да ідэй дэмакратыі, а па прынцыпу дачыненняў да ўлады. І Ельцын, і яго каманда—гэта тая самая наменклатура, якая адмовілася ад ідэй камунізму, якая ўсплыла на антыкамунізме. І невыпадкова, што менавіта гэтая наменклатура ўспрыняла ідэі ліберальнага капіталізму, ідэі лібералізму, носьбітам якіх стаў Гайдар. І вось гэтыя ідэі, якія ў аснову ставяць прагматычную эканоміку, яны бадай, страшнейшыя для нашай незалежнасці, чым камуністычная экспансія,—якую ажыццяўляў Хасбулатаў. Таму што, яны нас ставяць на калені шляхам прадуманай эканамічнай безвыходнасці і вымушаюць нас саміх ісці ў гэтую «рублёвую» зону, гэтак жа, як трус ідзе ў пашчу ўдава, і думаць, што гэта стане выратаваннем. Гэта вельмі небяспечная і, я б сказаў, страшная палітыка, таму што яна ідзе шляхам ашуканства, а вымушаны выбар робіцца ашуканымі нібы добраахвотна.

Я перакананы, што сярод вас ёсць людзі, якія сапраўды думаюць, што гэта будзе пэўная палёгка, што гэта нейкі выхад з таго стану, у якім мы апынуліся. Але паглядзіце, як паслядоўна палітыка нашага ўрада, урада спадара Кебіча, давяла нашую эканоміку да таго стану, калі мы стаім на каленях і быццам бы няма выхаду. І толькі цяпер, не ў 1992 годзе, не ў пачатку 1993 года, а менавіта цяпер з'явілася гэтая думка: давайце аб'ядноўваць грашовыя сістэмы. Але ж гэта элементарна: без сваёй фінансава-крэдытнай сістэмы не можа быць дзяржаўнай незалежнасці.

Давайце цяпер паглядзім, што з гэтага можа атрымацца. Першае, што можна прагназаваць,—спыняцца нашыя заводы. Спыняцца, таму што рэформы ў Расеі пайшлі значна далей, расейцы маюць больш танную сыравіну, менш затрачваюць працы на вытворчасць адпаведных прадуктаў, яны будуць значна таннейшыя. І калі расейскія тавары прыйдуць сюды, (а яны прыйдуць, таму што і эмісіяй, і фінансава-крэдытнай палітыкай будзе валодаць Цэнтральны банк Расеі, будзе валодаць Расея, а не мы), то нашая вытворчасць не зможа канкурыраваць, нашы тавары будуць даражэйшымі, проста нам не будзе патрэбы гэтыя тавары выпускаць, будзе не выгадна, і заводы спыняцца. Вось вам першы сацыяльны крызіс, які адбудзецца.

Расеі будзе нявыгадна развіваць тую структурную перабудову, таму што гэта павінна рабіць дзяржава, яна павінна ўкладваць сродкі. Яны не будуць сюды ўкладваць сродкі, таму што небяспека аддзялення ўсё роўна будзе стаяць, а Расея праследуе стратэгічныя мэты, перш за ўсё—ядзерная, паветраная абарона, пра якую гаварылі, абарона Масквы і гэтак далей. Гэта ж зразумела.

Такім чынам, куды мы пойдзем, калі зараз на гэтым Вярхоўным Савеце будуць ратыфікаваныя гэтыя пагадненні? Тут жа няма ніякіх эканамічных перспектыў. Той бізнес, тая прадпрымальніцкая вытворчасць, якая зараз развіваецца ў Расеі (і развіваецца дастаткова бурна, прытым па дастаткова дзікіх законах, таму што грамадская супольнасць там слабая, яна несфармаваная), значна мацнейшая за наш бізнес, за нашую прадпрымальніцкую вытворчасць. І іх банкі значна мацнейшыя, чым нашыя. Калі мы не будзем распараджацца сваімі фінансамі (мы ж не будзем, мы ж будзем плаціць падаткі ў федэральны бюджэт, будзем падпарадкоўвацца законам расейскага банка), то яны нам, як кажуць, напішуць і танец. Зразумела, што не ўзнікне ніякага эканамічнага супраціўлення, і зразумела, што нашая вытворчасць, наш бізнес будуць, тут жа ліквідаваныя, яны не вытрымаюць ніякай канкурэнцыі. Нашыя банкі лопнуць. Спадар Беленькі гаварыў, што ў лепшым выпадку яны стануць філіяламі (гэта ў лепшым выпадку). Яны проста не стануць існаваць.

У выніку нашыя заводы, нашыя фабрыкі, чыгункі, лясы апынуцца ва ўласнасці расейскіх прадпрымальнікаў і бізнесменаў. Элементарна. Наша маёмасць, прадпрыемствы будуць пушчаны з малатка, з

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## Выступ старшыні ЦР БСДГ, народнага дэпутата Беларусі Алега Трусава

**Паважаныя спадары дэпутаты!**

Па выніках дакладаў С. С. Шушкевіча і В. Ф. Кебіча можна сказаць адно.

Каб шаноўны Станіслаў Станіслававіч выступіў з такім грунтоўным дакладам яшчэ год ці два назад, цаны б яму не было. Аднак лепей пазней, чым ніколі, тым больш, што палітыка «згоды», яку так старанна праводзіў і праводзіць спадар Шушкевіч, на жаль, ніякіх станоўчых вынікаў для нашага народа не прынесла.

Агульным недахопам абодвух дакладаў з'яўляецца, на маю думку, поўная адсутнасць канкрэтных прагнозаў аб узроўні жыцця нашых грамадзян у 1994 і наступных гадах. Я, як народны дэпутат, павінен ведаць, што калі я прагаласую за прапановы Шушкевіча ці Кебіча, то сярэдні заработак маіх выбаршчыкаў у 1994 годзе будзе, напрыклад, не 15—12 S, як зараз, а 120—150 S, на паліцах магазінаў будзе той асартымент тавараў і па тых жа цэнах, як гэта ўжо ёсць у Летуве, Латвіі, Эстоніі і той жа Расіі, што аплата за жыллё складзе 10% ад заробку, стыпендыі ў студэнтаў складуць 40%, а пенсіі—50% ад сярэдняга заробку ў прамысловасці. Калі ж гэтага не адбудзецца, то ўрад, які сам прапанаваў такую палітыку і не выканаў яе, сам ідзе ў адстаўку і ўступае месца тым людзям, якія могуць трымаць свае абяцанні.

Аднак чакаць ад нашага ўрада добраахвотнай адстаўкі, нават калі ўсе іх папярэднія праграмы з трэскам правалены, марная справа.

Вельмі дакладную фармулёўку курса беларускага ўрада ў сваім дакладзе прывёў Вячаслаў Кебіч. Ён сказаў канкрэтна і лаканічна: «у нас свой путь» (?).

Давайце мы прааналізуем вынікі і асноўныя этапы гэтага трохгадовага шляху. Спачатку пагартаем газеты. На першай старонцы «Народнай газеты» ад 12 лістапада 1993 г. мы бачым, што заробак хірурга ў кастрычніку склаў 82 тыс. рублёў (а касцюм каштуе 159 тыс. руб.), заробак маці пяцёх дзяцей, работніцы маторнага завода складае 56 тыс. рублёў (а 1 кг свіной каўбасы—13 тыс. руб.), а пра пенсіі нашых грамадзян нават сорамна гаварыць. Гэта адзін вынік «паспяховага» трохгадовага марша нашага ўрада. Ёсць і другі бок медаля.

Адкрыем газету «Рэспубліка» ад 11 лістапада 1993 г. і прачытаем матэрыял «Где эта улица? Где этот дом?». Ён прысвечаны будаўніцтву шматлікіх палацаў новых «буржуеў», што нібы грыбы растуць у ваколіцах Менска, Гародні, Берасця і іншых гарадоў. Хто ж жыве і будзе жыць у гэтых харомах? А жывуць там тыя людзі, якія вельмі ўдзячны нашаму ўраду за тыя магчымасці «прыхватызацыі», якімі яны карыстаюцца ўсе апошнія гады, і, мабыць, будуць карыстацца і надалей. Спадзяюся, што народны дэпутат Лукашэнка не пакіне гэту публікацыю без увагі.

Шмат недахопаў нашага ўрада ўжо названы ў дакладзе Станіслава Шушкевіча. Да іх трэба дадаць самыя істотныя недахопы «асобага шляху» ўрада Кебіча.

1. Поўны правал зацверджанай Вярхоўным Саветам 13 кастрычніка 1990 г. праграмы пераходу да рыначнай эканомікі.

2. Не паляпшэнне, а павелічэнне знешняй эканамічнай залежнасці ад Расіі, што прывяло да памяншэння валютнага экспарту ў краіны Заходняй Еўропы, Азіі і Лацінскай Амерыкі і страты нашых пазіцый на рынках былых краін СЭУ і краін Балтыі.

3. Адсутнасць мэтанакіраванай знешняй палітыкі, прамаруджванне з адкрыццём за мяжой нашых пасольстваў і асабліва консульскіх службаў.

Што трэба было зрабіць нашаму ўраду ў 1991 і ў 1992 гадах, пакуль на тэрыторыі былога СССР хадзіла былая савецкая валюта?

Тры вельмі простыя рэчы:

1. Зрабіць самыя высокія цэны і самы высокі заробак па прыкладу суседніх краін.

2. Зрабіць стратэгічныя запасы нафты і газу.

3. Увесці строгую эканомію энерганосьбітаў і пітной вады, а таксама пачаць аднаўляць гідраэлектрастанцыі, што былі закінутыя ў 60-х гадах.

Наш урад замест гэтага паставіў на межах мытні, увёў карткі, талоны і купоны, якія далі магчымасць жулікам займацца рээкспартам сыравіны з Расіі і вывазам жывёлы і прадуктаў харчавання ў Расію, краіны Балтыі і на Украіну. Гэтая недаравальная палітыка працягваецца і зараз. У той час, калі Расія ўвяла свабодныя цэны на хлеб і зрабіла папярэднюю датацыю маламаёмным людзям, наш ўрад у аднабаковым парадку зняў мытні на мяжы з Расіяй і даў магчымасць вывазіць туды хлеб, зпечаны з таго зерня, што купілі за валюту ці з такімі цяжкасцямі прывезлі з Казахстану.

Вясной 1993 года стала канчаткова зразумела, што эканоміка ў поўным завале, праграма пераходу да рынку загадала доўга жыць і трэба несці адказнасць за свае недаравальныя памылкі. Замест таго, каб пайсці ў адстаўку, Вячаслаў Кебіч 18 сакавіка ў гэтай зале Вярхоўнага Савета збірае сход наменклатуры, вельмі падобны на былыя «партхозактивы» і заклікае ўсіх уступаць у «калектыўную бяспеку», каб адцягнуць увагу ад эканамічных праблем. Менавіта ў той жа дзень у Менск з незапланаваным візітам прылятае Хасбулатаў, і праўрадавыя колы пачынаюць актыўнае ўмяшанне ва ўнутраныя справы суседняй дзяржавы. На старонках саўмінаўскай і камуністычнай прэсы ідзе шальмаванне расійскага прэзідэнта, гучаць заклікі аднаўлення СССР і КПСС, падымаецца пытанне аб канфедэрацыі з Расіяй і г. д. У гэты час на вясновым рэферэндуме расіяне падтрымліваюць свайго прэзідэнта і курс яго рэформаў.

Аднак на Беларусі з гэтага наш ўрад не робіць належных высноў. Летам у Маскву едзе дэлегацыя фракцыі «Беларусь», у расійскім парламенце выступае дэпутат Казлоў, а спадар Касцікаў перад гэтым запэўніў народных дэпутатаў, што з палівам і газам ніякіх праблем не будзе.

Расія тым часам уводзіць сваю валюту і спыняе пастаўкі газа на Беларусь.

Замест таго, каб аб'явіць нашага «зайца» пераходнай валютай і пачаць жыць па сродках, у верасні на Беларусі адбываюцца розныя кангрэсы і сходы, куды з'ехаўся увесь колер расійскай апазіцыі. Вельмі цікавую палітыку ў гэты час праводзіць і наш урад.

На старонках «дэмакратычнай» «Независимой газеты» Вячаслаў Францавіч заяўляе наступнае: «...К сожалению, оппозиция только критикует, никогда ничего не предлагая конкретного. Я неоднократно (цікава, каму і калі?—А. Т.) предлагал членам оппозиции войти в состав моего кабинета, но они просили себе министерства информации, образования и иностранных дел». І далей... «я, быть может, и согласился на это, если бы в придачу они взяли еще и министерство экономики. Это был бы сбалансированный подход».

Амаль адначасова на старонках «Гомельскіх ведамасцей» ад 24 верасня 1993 года мы можам прачытаць зусім іншыя выказванні Вячаслава Кебіча. Напрыклад, вось такое... «Этот конгресс народов Беларуси—и единство народов, и единственное народное движение... Мы в правительстве заявили о том, что мы будем во всей своей деятельности очень ориентироваться на действия участников этого конгресса. И мы понимаем и многие, и большинство народов понимают ту идею, которую провел конгресс народного движения...» Як кажуць, прыехалі, і каментарыі тут не патрэбны.

Такім чынам, можна не сумнявацца, які вынік мы атрымаем з тых абяцанняў, якія ўтрымліваюцца ў канцы даклада шаноўнага Вячаслава Францавіча.

Выйсце толькі адно. Адстаўка гэтага ўрада і стварэнне новага пераходнага ўрада, у які павінны ўвайсці прадстаўнікі прамысловых колаў, аграрнікаў, прафсаюзаў, розных палітычных рухаў і партый. Галоўных крытэрыяў адбора ў

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

## Выступ лідэра парламенцкай апазіцыі З. Пазьняка

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

аўкцыёна. І гэта элементарна можна палічыць нават не будучы эканамістам, а гісторыкам, таму што такое ў нашай гісторыі ўжо было. Гэта тры падзелы Рэчы Паспалітай. Мы цудоўна ведаем, як адбывалася тады разбурэнне нашых мануфактур, як нішчылася наша эканоміка, і гэта была свядомая палітыка Расейскай імперыі. Трэба рабіць вывады з гісторыі, таму што імперская палітыка паўтараецца. Цяпер мы бачым яе на новым вітку.

Я вельмі прасіў бы ўсё ж такі ўсіх дэпутатаў, дэпутатаў большасці (сярод якіх, напэўна, ёсць людзі, якія думаюць, што прагаласаваўшы за ратыфікацыю яны зробяць дабро, ну, для нашага «рэгіёна», для насельніцтва) задумацца сур'ёзна над вынікамі магчымага вашага рашэння, якое можа аказацца фатальным для нашай дзяржавы і для нашага народа. Я вельмі прасіў бы над гэтым задумацца і, як кажуць, сем разоў адмерыць, перш чым галасаваць.

Мы не павінны ратыфікаваць гэтае Пагадненне. Нам неабходна ўводзіць сваю нацыянальную валюту і праводзіць сваю незалежную эканамічную палітыку, сваю фінансавую палітыку. Нам прапануюць згодна пратакола, які зачытваў спадар Трусаў, увесці гэтых «зайцаў» як часовую валюту. Так, гэта пакуль што выхад. Мы павінны гэта зрабіць, але ж заўважце, што Расея гэта нам сама прапаноўвае. Таму што калі не будзе ў нас сваёй валюты (у нас жа яе няма), то Расеі нявыгадна ўкладваць сюды свае рэсурсы і дапамагаць нам, каб затым нас і праглынуць. Яны хочуць яшчэ, каб мы ўвялі б гэту сваю валюту, каб адпаведна і зручна для сябе прыраўняць курсы, каб можна было, так сказаць, эксплуатаваць вось гэтыя штучныя грашовыя курсы адзін да шасці, адзін да аднаго, адзін да чатырох і г. д. і праз некалькі месяцаў нас праглынуць поўнасцю. Мы ж не павінны вось так станавіцца на калені і не разбірацца ў элементарных рэчах. Я б вельмі вас прасіў над гэтым глыбока задумацца і не ратыфікаваць гэтае Пагадненне.

Дзякую за ўвагу.

## Выступ старшыні ЦР БСДГ, народнага дэпутата А. Трусава

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

новы ўрад можна назваць тры: кампетэнтнасць, сумленнасць і дзяржаўны прагматызм. Дарэчы, увайсці ў яго і нават узначаліць могуць некаторыя члены сённяшняга ўрада і народныя дэпутаты з ліку тых, якія ўжо выступалі нядаўна перад намі ў гэтай зале.

Галоўная мэта пераходнага ўрада— гэта стабілізацыя эканомікі, выратаванне сельскай гаспадаркі і барацьба з карупцыяй і злачыннасцю.

У якасці першачарговых мер для выхаду з крызісу можна прапанаваць наступнае:

1. Поўная прыватызацыя ці перавод на арэнду дзяржаўнага гандлю. Дзяржава павінна захаваць манаполію толькі на продаж спіртных напіткаў, тытуню, лекаў і зброі.

2. Закон аб дэкларацыі даходаў усіх грамадзян Беларусі (у першую чаргу дзяржаўных служачых і супрацоўнікаў камерцыйных структур).

3. Адміністрацыйная рэформа (ліквідацыя абласных Саветаў і раённых у вялікіх гарадах, усе аблвыканкамы непасрэдна падпарадкоўваюцца Саўміну).

4. Структурная рэарганізацыя Савета Міністраў, скарачэнне колькасці міністраў да 15 асоб і ліквідацыя ўсіх нелегітымных структур, што не падпарадкоўваюцца асобным міністрам.

5. Закон аб абавязковай рэгістрацыі ўсіх не грамадзян Беларусі, што маюць права бязвізавага ўезду на Беларусь.

6. Вяртанне да прапановы Камісіі Вярхоўнага Савета па эканамічнай рэформе, каб кожны грамадзянін Беларусі меў узаемазамяняльны набор трох імянных прыватызацыйных чэкаў: на зямлю, на жыллё, на прыватызацыю прадпрыемстваў.

7. Абкладанне прагрэсіўным падаткам усіх камерцыйных структур і стварэнне фінансавых ільгот для павелічэння экспарту тавараў і сельгаспрадукцыі.

8. Увядзенне сваёй нацыянальнай валюты і правядзенне жорсткай манетарнай палітыкі.

9. Стварэнне дзяржаўнай праграмы па развіццю сельскай і лясной гаспадаркі, акцыяніраванню калгасаў і саўгасаў, ператварэнню іх у аграфірмы, развіццё фермерскіх гаспадарак, стварэнне ўмоў для вяртання былых гараджан на вёску.

10. Правядзенне жорсткай дзяржаўнай палітыкі па эканоміі энерганосьбітаў і пітной вады, развіццё альтэрнатыўнай энергетыкі.

Такім чынам, лёс нашай дзяржавы ў нашых руках і ўсё залежыць ад вынікаў гэтай XIII сесіі Вярхоўнага Савета.

## Запыт З. Пазьняка

У маім выступленні 12.XI.93 па дакладу Старшыні Савета Міністраў аб шляхах выхаду з крызісу я паставіў перад ім канкрэтныя пытанні аб прычынах і мэтах выкарыстання 9 і 10 лістапада ў час сесіі Вярхоўнага Савета ўнутраных войскаў, міліцыі і ваеннай матарызаванай тэхнікі.

Аднак спадар В. Кебіч у сваім заключным слове ўхіліўся ад адказу на гэтыя пытанні. У сувязі з такімі яго паводзінамі я раблю дэпутацкі запыт Старшыні Савета Міністраў В. Кебічу.

Мне стала вядома з розных крыніцаў, у тым ліку і з асяроддзя саўмінаўскіх структураў, што вузкім колам урадавых асобаў пад вашым кіраўніцтвам, спадар Кебіч, у дзень адкрыцця 13-й сесіі рыхтавалася палітычная правакацыя з мэтай разгону Вярхоўнага Савета ў выпадку вашай адстаўкі. 5 лістапада вузкім колам людзей з Савета Міністраў была напісана правакацыйная заява «Да грамадзянаў Рэспублікі Беларусь». Па вашай ініцыятыве на 9 лістапада былі прыведзеныя ў баявую гатоўнасць падпарадкаваныя Савету Міністраў часці памежных войскаў і меркавалася перакідка іх у Менск пры пэўнай неабходнасці. Па вашай ініцыятыве да Дома Ураду, дзе адбываецца сесія, былі сцягнутыя ўнутраныя войскі, часткі міліцыі спецыяльнага прызначэння, якія акружылі Дом Ураду і былі ўведзеныя непасрэдна ў Дом, занялі там усе ўваходы і выхады. Да Дома Ураду былі прыгнаныя дзевяць «бэтээраў». Два з іх пры поўным боекамплекце. Была тут і іншая тэхніка. Дэманстрацыя сілы прадаўжалася два дні, 9 і 10 лістапада.

У сувязі з вышэйсказаным прашу паведаміць:

1. З якой мэтай былі прыведзеныя часці ўнутраных войскаў і матарызаваная тэхніка з боекамплектамі да Дома Ураду 9 і 10 лістапада?

2. З якой мэтай быў напісаны і распаўсюджаны ў сродках масавай інфармацыі правакацыйны зварот «Да грамадзянаў Рэспублікі Беларусь» 5 лістапада, хто яго аўтары і кім ён падпісаны?

3. Хто аддаў загад на выкарыстанне ўнутраных і памежных войскаў і АМАПа? Кім гэты загад падпісаны? Прашу прадставіць копію гэтага загада для азнаямлення.

У сувязі з тым, што ў вышэйназваных дзеяннях утрымліваюцца, на мой погляд, прыкметы дзяржаўнага злачынства прашу Генеральнага пракурора Беларусі сп. В. Шаладонава правесці дазнанне па азначаных фактах.

**Народны дэпутат Беларусі З. Пазьняк.**

**Уладзімір СЛАБІН**

# БЕЛАГВАРДЗЕЙСКІЯ БАНДЫ ЦІ НАРОДНАЕ ПАЎСТАННЕ?

**Беларусь ведае паўстанні Тадэвуша Касцюшкі, Кастуся Каліноўскага, Васіля Вашчылы, Слуцкі збройны чын... Гэтыя выступленні мелі ў розныя часы рознае значэнне для долі народа. Але незалежна ад сваіх вынікаў, узроўню арганізацыі, колькасці ўдзельнікаў і адносін афіцыйнае гісторыяграфіі, кожнае з іх сведчыла аб незнішчальнае волі нашага народа да самастойнасці, незалежнасці, жаданні самім распараджацца сваім лёсам.**

**Сёлета спаўняецца 75 год з часу Веліжскага паўстання, якое адбывалася таксама на Гарадоччыне і якое дагэтуль слаба асветлена ў беларускай гісторыі.**

-1-

Жадаючы пазнаёміцца з гісторыяй Гарадоччыны, краязнавец-пачатковец будзе мець клопат —дужа мала напісана пра нашу старонку. Есць нарыс-хроніка І. Дуброўскага «Да долі чалавечай» (Мн., Беларусь, 1970), якая апавядае пра стварэнне даўгапольскае камуны «Чырвоны сцяг». У жніўні 1987 года ў «Прамені камунізму» з'явіўся артыкул А. Кутузава «Кастрычніцкія дні на Гарадоччыне». Пэўную інфармацыю можна пачэрпнуць у раённае бібліятэцы ды краязнаўчым музеі.

Аднак усе гэтыя крыніцы даюць аднабаковае і сухое асвятленне падзей. Што хаваецца за фармулёўкамі «арыштаваны контррэвалюцыянер», «распушчаны сход», «рэквізаваная маёмасць»? Мы ведаем, што Гарадоцкі раён—піянер калгаснага руху на Віцебшчыне. Аднак, скажам праўду, ён цяпер далёка не першы па гаспадарчых паказчыках. Ці існуе паміж гэтым якая сувязь? Ці паслухмяныя былі людзі, калі бальшавікі праводзілі такі грандыёзны сацыяльна-аграрны эксперымент?

-2-

Сёння нам шмат чаго стала вядома.

За дапамогу ў падаўленні карнілаўскага мяцяжу Часовы ўрад меў глупства аддаць бальшавікам 40000 стрэльбаў. Нешматлікія, але апантаныя і добра арганізаваныя, тыя хутка нейтралізавалі палітычных праціўнікаў, прыручылі саюзнікаў і неўзабаве кульнулі сам Часовы ўрад. Атрымаўшы на ўсенародных выбарах ва Устаноўчы Сход 24% галасоў, бальшавікі не засмуціліся, а папросту разагналі яго. З гэтага моманту ўсе палітычныя групоўкі сталі на шлях узброенае барацьбы. Пачыналася грамадзянская вайна.

Між тым працягвалася першая сусветная. У лютым-сакавіку 1918 года большая частка Беларусі апынулася пад нямецкай акупацыяй. Тады была сімвалічна абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка: Віцебск і Гарадок не ўваходзілі ў гэтую зону. Тагачасныя бальшавіцкія газеты, у адрозненне ад часоў Другое сусветнае вайны, заклікалі хутчэй перамагчы не толькі і не столькі знешняга агрэсара, колькі тых суайчыннікаў, якія не падзялялі ідэі камунізму. Нармальныя людзі ніяк не маглі зразумець, у імя якіх такіх ідэалаў беларус павінен страляць у беларуса; з мабілізацыяй былі велізарныя цяжкасці. Сапраўдным бічом стала дэзерцірства: давала плён колішняя агітацыя бальшавікоў, калі тыя выступалі за паражэнне свае краіны ў імперыялістычнай вайне. Заклік у газеце: «Бацька! Калі твой сын —дэзерцір з Чырвонае Арміі, прымусь яго хутчэй вярнуцца. Калі ён не вернецца на працягу гэтага тыдня, літасці не будзе ні табе, ні яму!»

**(Працяг будзе).**

*Тата, пачытай!*

## Бестселер для «Белай Русі»

На вокладцы чарговай брашуры з серыі «Библиотека генерала Стерлигова» змешчаны заклік «Мы—русские! С нами Бог!» і сілуэт помніка Мініну і Пажарскаму. На адваротным баку вокладкі—баявы кліч: «Русские идут!».

На першых старонках апантаны аўтар, схаваны пад псеўданімам П. Перасвет, з хваравітым імпэтам кажа, што «масонство... пережило серьёзную эволюцию. Этот, якобы мирный союз философов и филантропов, попал под иудейское влияние и превратился в страшную организацию, стремящуюся разрушить христианский строй, чтобы на развалинах его основать всемирное иудейское царство». Далей ідуць асноўныя палажэнні знакамітых «Пратаколаў сіёнскіх мудрацоў». Аўтар аналізуе нацыянальны склад структуры улады пасля кастрычніцкага перавароту і між іншым паведамляе: «Ленин—также еврей, который был бы полноправным гражданином Израиля...».

«Могут возразить: «Простите, но у министра иностранных дел русская фамилия Козырев!» «Ошибаетесь, уважаемые, настоящая фамилия этого господина—Фридман.».

«...Дядюшка Ельцына, Ельцын Борис Моисеевич, в самый разгар уничтожения русского народа иудеями... был членом коллегии Наркомата внутренних дел...»

Паступляваўшы формулу «Сионизм + масонство = трагедия России», аўтар праводзіць даўгаваты спіс іудзеяў, які адкрывае Гарбачоў, працягваюць Шэварднадзе, Буніч, Валкагонаў, Сабчак (Фінкельштэйн), Лужкоў, Станкевіч, Нямцоў. Сюды ж трапілі... лідэр ФНС Канстанцінаў, лідэр ЛДП Жырыноўскі, лідэр «Памяти» Васільеў і рэдактар газеты «День» Праханаў, а таксама папулярныя вядучыя ТБ Паліткоўскі, Лісцьеў, Маслюкоў, Мітковa... У канцы гэтакі жаль: «Это лишь малая толика тех иудеев, о которых хотелось бы упомянуть.».

У нармальнага чалавека пасля «Няўжо?» з'яўляецца новае пытанне: «Ну і што, калі так?» Але назва брашуры забівае ў галаву чытача бязглуздую выснову: яўрэі—ворагі. Па замове Рускага Нацыянальнага Сабора невядомае выдавецтва ціснула яе ў колькасці 10000 асобнікаў.

З якое антысеміцкае клаакі выйшаў гэты злашкодны яйцагліст?

Згаданы опус папулярны ў асяроддзі малойчыкаў з мясцовай філіі СС «Белая Русь».

**Уладзімір КАСТУСЕНАК.**

### УНІЯ ПРАЦЯГВАЕ АДРАДЖАЦЦА

У мінулую пятніцу ў Віцебску адбыліся ўрачыстыя набажэнствы з нагоды чарговых угодкаў смерці полацкага уніяцкага архібіскупа Іязафата Кунцэвіча, забітага ў 1623 годзе на Успенскай горцы. Віцебскія і львоўскія грэка-католікі ўшанавалі памяць святога пакутніка.

У выхадныя падобныя набажэнствы прайшлі ў Полацку. **К. Стусь.**

